# Голас Радзімы

№ 6 (2044)
11 лютага 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Самаходныя скрэперы, самазвальныя аўтапаязды і аўтасамазвалы павышанай праходнасці — прадукцыя Магілёўскага аўтамабільнага завода імя С. Кірава. Ужо не адзін год магутныя машыны з маркай «МаАЗ» працуюць у розных кутках нашай краіны і ў асноўным прызначаны для выкарыстання ў складаных умовах, напрыклад, у час падземных работ. Працавалі яны на будаўніцтве Байкала-Амурскай магістралі, Камскага аўтамабільнага завода, Крымскай арашальнай сістэмы...

НА ЗДЫМКУ: машыны Магілёўскага аўтамабільнага адпраўляюцца ў далёкі шлях.

(Фотарэпартаж пра магілёўскіх аўтамабілебудаўнікоў змешчаны на 3-й стар.).

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

# ЗНАХОДЖАННЕ А. ГРАМЫКІ Ў БЕЛАРУСІ

1—3 лютага ў рэспубліцы знаходзіўся Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Андрэй Грамыка. Яго знаходжанне ў Беларусі пачалося з ускладання кветак да помніка У. І. Леніну ў сталіцы на плошчы, якая носіць імя правадыра.

У той жа дзень А. Грамыка знаёміўся з жыццём працаўнікоў Крупіцкага сельскага Савета Мінскага раёна. У калгасе «Новы быт» ён агледзеў малочна-таварную ферму, цэнтральны пасёлак, гандлёвы цэнтр, дзіцячы сад. Пасля адбылася гутарка з мясцовымі жыхарамі. У ёй абмяркоўваліся праблемы, якія стаяць перад гаспадаркай.



А. Грамыка наведаў таксама вытворчае аб'яднанне «Гранат», якое спецыялізуецца на распрацоўцы, выпуску і ўкараненні на прадпрыемствах сродкаў робататэхнікі і комплекснай аўтаматызацыі вытворчасці.

А. Грамыка прыняў удзел у восьмай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання. Сярод пытанняў, вынесеных на яе разгляд, асобае месца займалі праблемы вырашэння Харчовай праграмы і сацыяльнай перабудовы вёскі.

Перад удзельнікамі сесіі з дакладам «Будаваць адносіны Саветаў з прадпрыемствамі на новых асновах» выступіў А. Грамыка. Ён падкрэсліў: «Мы маем падставы ўпэўнена сказаць, што ў народзе ўмацоўваецца вера ў незваротнасць перамен. На вытворчасці стала больш парадку і арганізаванасці, менш збояў, браку. Людзі сталі па-іншаму адносіцца да працы, расце патрабавальнасць да сябе і адзін да аднаго, у калектывах усталёўваецца крытыка і самакрытыка, выбарнасць і адказнасць.

...Якасныя змены намеціліся і ў народнай гаспадарцы Беларусі. Амаль увесь прырост аб'ёму вытворчасці ў прамысловасці — нямала ў параўнанні з іншымі рэспублікамі — забяспечаны за кошт павышэння прадукцыйнасці працы, што мае асаблівае значэнне. Шырокім фронтам ідзе перабудова гаспадарчага механізма. Прыемна, што інтэнсіфікацыя вытворчасці апіраецца на навукова-тэхнічны прагрэс. Гэта добрая візітная картка рэспублікі ў брацкай сацыялістычнай сям'і народаў нашай краіны». Асноўная ж увага ў выступленні была нададзена тым праблемам, якія ў Беларусі яшчэ чакаюць свайго вырашэння.

А. Грамыка сустрэўся ў Мінску з адказнымі партыйнымі і савецкімі работнікамі рэспублікі. Размова ішла аб сэнсе і сутнасці перабудовы.

Напярэдадні А. Грамыка пабываў у Палацы культуры вытворчага тонкасуконнага аб'яднання. Ён цёпла гутарыў з удзельнікамі хору ветэранаў гэтага прадпрыемства. А. Грамыка адзначыў неабходнасць стварэння ў кожным раёне надобных цэнтраў культурнага жыцця, якія задавальнялі б патрабаванні тысяч людзей у сустрэчах і ў самавыяўленні, адпавядалі б духу часу, сур'ёзным, прынцыповым пераўтварэнням, што адбываюцца ў жыцці краіны.

Аб увазе да моладзі, задавальненні яе патрабаванняў, цягі да прыгажосці і арыгінальнасці размова была прадоўжана ў залах Дома гандлю «Тавары для моладзі». У простых, шчырых гутарках А. Грамыкі з пакупнікамі, работнікамі магазіна былі выяўлены і істотныя недахопы ў вытворчасці і рэалізацыі тавараў для моладзі.

А. Грамыка наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь», усклаў кветкі да Вечнага агню мемарыяла і пакінуў запіс у кнізе ганаровых наведвальнікаў.

НА ЗДЫМКУ: А. ГРАМЫКА ў калгасе «Новы быт» Мінскага раёна.

# ВІЗІТЫ, СУСТРЭЧЫ, ГУТАРКІ

**У МІНСКУ ПАБЫВАЛА ДЭЛЕГАЦЫЯ ПАРТЫЙНЫХ РАБОТНІКАЎ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ АДЗІНАЙ ПАРТЫІ ГЕРМАНІІ НА ЧАЛЕ З ЧЛЕНАМ ЦК САПГ, ЗАГАДЧЫКАМ АДДЗЕЛА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ ЦК САПГ ГЕЛЬМУТАМ ЗЕМЕЛЬМАНАМ.**

**З дэлегацыяй сустрэўся першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалоў. Адбылася цёплая сяброўская гутарка аб шляхах і перспектывах развіцця аграпрамысловых комплексаў БССР і ГДР. Была падкрэслена важнасць абмену вопытам, паглыблення супрацоўніцтва ў гэтай галіне.**

**У той жа дзень госці з ГДР пабывалі ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце бульбаводства і пладаагародніцтва, у калгасе імя Гастэлы Мінскага раёна.**

**У СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ ТАКСАМА ПАБЫВАЎ НАДЗВЫЧАЙНЫ І ПАЎНАМОЦНЫ ПАСОЛ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ФЕДЭРАТЫЎНАЙ РЭСПУБЛІКІ ЮГАСЛАВІІ Ў СССР М. ВЕРЭШ.**

**М. Верэш нанёс візіты першаму сакратару ЦК КПБ Я. Сакалову, прэзідэнту рэспублікі Г. Таразевічу, міністру замежных спраў БССР А. Гурыновічу і меў з імі дружалюбныя гутаркі.**

**У Доме-музеі І з'езда РСДРП пасол СФРЮ агледзеў экспазіцыю і зрабіў запіс у кнізе ганаровых наведвальнікаў.**

**Пасол СФРЮ і суправаджаючыя яго асобы наведалі Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Югаслаўскі госць зрабіў паездку па гораду, прысутнічаў на спектаклі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.**

**Пасол СФРЮ ўсклаў кветкі да помніка У. І. Леніну, вянок да манумента-абеліска на плошчы Перамогі, ушанаваў мінутай маўчання памяць воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў баях за вызваленне Радзімы ад фашысцкіх захопнікаў.**

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

## ВЫСТАЎКА «ЦІТА-ПАРТЫЯ»

Высакароднай мэце захавання і памнажэння дружбы савецкага і югаслаўскага народаў, якая прайшла выпрабаванне часам, служыць выстаўка «Ціта-партыя», што адбылася ў выставачнай зале Беларускага навукова-даследчага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі ў Мінску.

Яна арганізавана мемарыяльным цэнтрам «Іосіп Броз Ціта» ў Бялградзе сумесна з Цэнтральным музеем У. І. Леніна ў Маскве і прысвечана 50-годдзю прыходу да кіраўніцтва Саюзам камуністаў Югаславіі І. Броз Ціта.

У экспазіцыі былі прадстаўлены дакументы і асабістыя рэчы вядомага дзеяча міжнароднага камуністычнага і рабочага руху, які многія гады стаяў на чале СКЮ і югаслаўскай дзяржавы. Самы буйны раздзел выстаўкі «Ціта-партыя» расказвае пра самаадданую барацьбу югаслаўскіх партызан супраць нацызму. Шырока прадстаўлены таксама і дакументы, якія адлюстроўвалі гісторыю ўзаемаадносін паміж нашымі краінамі, удзел Югаславіі ў руху недалучэння, адным з заснавальнікаў якога быў Ціта.

МАДЭРНІЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ

## З ІНДЭКСАМ «Н»

Выпускам вырабаў з індэксам «Н» (навінка) адзначылі наваселле майстрыхі швейнай фабрыкі ў Полацку. Тут завершана карэнная рэканструкцыя і мадэрнізацыя прадпрыемства: палачане замянілі ўвесь парк станкоў без спынення вытворчасці. Цяпер гадавая праграма выпуску недарагога, але прыгожага і элегантнага жаночага адзення павялічыцца ўтрая. Гэта вырабы самага шырокага асартыменту.

Недалёка ад асноўнага вытворчага корпуса размясціліся бытавы комплекс, сталовая, маладзёжны інтэрнат. У прыфабрычным гарадку жыве большасць работніц фабрыкі — нядаўніх выпускніц тэхнікумаў і прафтэхвучылішчаў.

НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ПАМЯЦІ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА-ДЭМАКРАТА

150-годдзю выдатнага беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата і мысліцеля Кастуся Каліноўскага і 125-годдзю паўстання 1863 — 1864 гадоў у Беларусі і Літве была прысвечана рэспубліканская навуковая канферэнцыя, якая адбылася ў канцы студзеня ў Гродне і на радзіме юбіляра — у Свіслацкім раёне.

Перад удзельнікамі канферэнцыі — вучонымі, выкладчыкамі, студэнтамі, настаўнікамі гісторыі агульнаадукацыйных школ, а таксама актывістамі Добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, таварыства «Веды», Фонду культуры выступілі з дакладамі і паведамленнямі вучоныя АН СССР і АН БССР, Гродзенскага, Вільнюскага універсітэтаў і філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку (ПНР), навуковыя супрацоўнікі музеяў і архіваў.

Удзельнікі канферэнцыі пазнаёміліся з матэрыяламі прымеркаванай да юбілейнай даты выстаўкі ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, наведалі мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю К. Каліноўскага. Яны агледзелі сядзібу ў вёсцы Якушоўка, дзе жыла сям'я рэвалюцыянера-дэмакрата, будынак былой гімназіі ў Свіслачы, у якой ён вучыўся, экспазіцыі мясцовых музеяў, усклалі кветкі да яго помніка.

ДА СТАЛА СЯЛЬЧАН

## ГАСЦІНЦЫ КАНДЫТАРАЎ

Даспадобы сяльчанам прыйшлася прадукцыя новага кандытарскага цэха, пабудаванага ў вёсцы Моталь, што на Іванаўшчыне. Яго майстры за кароткі тэрмін асвоілі выпуск больш дзесяці назваў здобных булачак, выпечку тортаў «Птушынае малако», «Казка», «Прага», «Імянінніца» і іншай апетытнай прадукцыі. Уся яна адразу паступае ў кулінарыі, сталовыя, магазіны навакольных вёсак.

Усяго ў райцэнтрах і сёлах вобласці кааператары стварылі 55 кандытарскіх цэхаў, якія штогод пастаўляюць звыш 400 тон ласункаў.

ГАСТРОЛІ ЗА МЯЖОЙ

## АПЛАДЫСМЕНТЫ АРТЫСТАМ

З захапленнем прынялі ў тайландскай сталіцы балетную трупу Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР.

У тайландскім культурным цэнтры прысутныя стоячы апладзіравалі савецкаму калектыву. Такімі словамі вядомы тэатральны крытык Дэісорн пачаў свой артыкул аб выступленнях артыстаў з Мінска. Спецыялісту спадабалася і высокая тэхніка салістаў, за якой — апрача таленту, выдатная школа, і афармленне спектакля: дэкарацыі, асвятленне. Яны як майстэрская аправа: дапамагаюць гледачу раскрыць для сябе новыя, часам нечаканыя грані высокага выканаўчага ўзроўню.

ЗАВЕРШАНЫ КОНКУРС

# ПРЫВЕЗЛІ З БРАЦІСЛАВЫ... МІКРАРАЁН

У Мінску адбыўся заключны этап творчага спаборніцтва «Жылое асяроддзе ў буйным горадзе», у якім прынялі ўдзел спецыялісты Балгарыі, В'етнама, Румыніі, Чэхаславакіі і Югаславіі. Тры работы прадставілі гаспадары горада — мінчане, дзве — масквічы, па адной — дойліды з Ленінграда і Томска. Пераможцамі сталі дойліды з ЧССР, а прызёрамі — аўтары з Югаславіі, Масквы і беларускага інстытута «Мінскграмадзянпраект».

На першай стадыі ў конкурсе ўдзельнічала больш за 80 работ, лепшыя з іх былі допушчаны да далейшага ўдзелу. Іх аўтарам прадаставілі магчымасць пазнаёміцца з Мінскам, з будучай будаўнічай пляцоўкай. Вынікам сталі дэталёва распрацаваныя праекты, якія, па сутнасці, можна адразу ж пускаць у справу. Тэма конкурсу не выпадкова зацікавіла вельмі шырокае кола спецыялістаў. На невялікім «пятачку» гарадской тэрыторыі трэба вырашыць праблемы, што стаяць цяпер найбольш востра перад дойлідамі ўсяго свету.

Гэта добра відаць на вывешаных у зале галоўнага архітэктурна-планіровачнага ўпраўлення Мінгарвыканкома аркушах ватмана. На ўчастку зямлі, што працягнуўся ўздоўж праспекта Машэрава, адразу за мікрараёнам Вяснянка, размясціўся прыродны заказнік — невялікі падвоем, дзе гняздуюць лебедзі, гусі, качкі. Не парушыць экалагічны баланс, не спалохаць гмахамі горада безабаронных птушак — такой была, бадай, галоўная і самая складаная задача ўдзельнікаў конкурсу.

Па-рознаму падышлі да яе рэалізацыі архітэктары. Адны «адгарадзілі» прыроду сценамі дамоў, іншыя зрабілі запаведнік славутасцю мікрараёна, спадзеючыся на добрыя адносіны жыхароў да «братоў меншых». Цікавай прызналі многія ідэю браціслаўскіх дойлідаў з ЧССР. У праекце прадугледжана буферная зона паміж забудовай і жывой прыродай, пракладзены своеасаблівыя біякалідоры.

Як няма аднолькавых людзей, так не знойдзеш на конкурсе двух падобных праектаў. І ўсё ж многія з іх збліжае імкненне «ачалавечыць» архітэктуру, прымусіць яе служыць патрэбам будучых жыхароў. Гэта і насталгічныя замкнёныя двары, і спалучэнне малапавярховых будынкаў з дамамі-вежамі, і цэлыя пешаходныя вуліцы, і максімальнае развіццё сферы паслуг.

Праекты горача абмяркоўваліся не толькі членамі журы. Ні адзін удзельнік конкурсу не застаўся раўнадушным да работ сваіх калег.

**Конкурс удаўся — гэта агульная думка. Яго пераможцам прадастаўлена права рэалізаваць свой праект. Яны будуць кіраваць усімі работамі па стварэнню новага мінскага мікрараёна Лебядзіны.**

Вялікія магчымасці даюць міжнародныя спаборніцтвы, адным з першых і стала мінскае. У далейшым прыцягненне вядучых дойлідаў сацыялістычных краін і ўсяго свету да вырашэння найбольш актуальных праблем горадабудаўніцтва стане правілам у рабоце.

*ЯК ІДЗЕ ВЫКАНАННЕ ЖЫЛЛЁВАЙ ПРАГРАМЫ*

# МІНСКІЯ НАВАСЕЛЛІ

Сталіца рэспублікі пашырае свае межы. Яе былыя ўскраіны становяцца месцамі найбольш інтэнсіўнага ўзвядзення жылля, сацыяльна-культурных аб'ектаў. Забудоўваюцца мікраёны Малінаўка, Уручча, Кунцаўшчына. А неўзабаве мантажнікі прыйдуць і ў Чырвоны Бор, Лошыцу, Лебядзіны, Сухарава.



І гэта не выпадкова. Каб забяспечыць кожную сям'ю да 2000 года асобнай кватэрай ці домам, трэба павялічыць сённяшнія тэмпы будаўніцтва на 45—50 працэнтаў.

Ці рэальная гэта задача? Спецыялісты даюць станоўчы адказ.

— Цяпер у сталіцы маецца 400 тысяч кватэр,— гаворыць намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома М. Марозаў.— Штогод будуецца каля 15 тысяч новых і яшчэ амаль 2 тысячы вызваляюцца для перазасялення. Аднак за той жа час на ўлік прымаецца па 18—20 тысяч чалавек. Баланс атрымліваецца адмоўны. Каб папраўіць становішча, трэба кожны год уводзіць 21 тысячу кватэр.

Здавалася б, сітуацыя бязвыхадная. Але мясцовыя ўлады падлічылі, што 50 працэнтаў запланаванага жылля можна ўзвесці за кошт цэнтралізаваных дзяржаўных укладанняў, яшчэ 30 працэнтаў — аддаць на водкуп жыллёва-будаўнічым кааператывам. А астатняе? Выявілася, што і тут ёсць выйсце. Справа ў тым, што ў горадзе даўно ведаюць аб вопыце Мінскага аўтамабільнага завода. Прадпрыемства самастойна ўзводзіць кватэры для сваіх рабочых. З гэтай мэтай створаны ўласныя будаўнічыя брыгады, ёсць матэрыялы і механізмы, выдзяляюцца неабходныя грашовыя сродкі. Цікава і тое, што ў вырашэнні жыллёвай праблемы ўдзельнічаюць усе працуючыя — ад рабочага да генеральнага дырэктара. Кожны з завадчан абавязаўся адпрацаваць на сацыяльных аб'ектах па чатыры дні ў вольны ад работы час. У бягучай пяцігодцы калектыў будзе штогод уводзіць у эксплуатацыю 350—400 кватэр, а ў наступнай — ужо 450—500. Плануецца, што да 1995 года кожны аўтазаводзец будзе мець асобную кватэру.

Як было не рэкамендаваць такі вопыт для пераймання? І кіраўнікі вытворчых прадпрыемстваў прынялі яго да ўвагі, сталі больш актыўна клапаціцца аб сацыяльнай сферы. Для параўнання: за ўсю адзінаццатую пяцігодку ў Мінску было пабудавана гаспадарчым спосабам каля 50 дамоў, а летась паступіла 69 заявак. Прагрэс адчувальны. Ёсць тут і яшчэ адзін нюанс: участкі для будоўлі такім ініцыятарам выдзяляюцца бліжэй да прадпрыемстваў. А гэта адна з гарантый для адміністрацыі, што рабочыя не будуць шукаць іншага месца работы.

У многіх сталічных працоўных калектывах абмяркоўваюць і магчымасць узвядзення жылля індывідуальна: прынята рашэнне гарвыканкома аб выдзяленні ўчасткаў для такога будаўніцтва — асобных катэджаў. Праўда, яны будуць за межамі Мінска — у напрамках бліжэйшых да горада паселішчаў: Міханавіч, Фаніпаля, Калодзішч і Заслаўя. Цікава, што ўзвядзенне інжынерных камунікацый, аб'ектаў сацыяльнага прызначэння, добраўпарадкаванне возьмуць на сябе такія гіганты індустрыі горада, як аўтамабільны і трактарны заводы, аб'яднанне «Інтэграл» і іншыя. Без сумнення, чатыры тысячы сем'яў, якія пасеяцца там, атрымаюць усё неабходнае для арганізацыі паўнацэннага быту.

У вырашэнні жыллёвай праблемы важнае месца адводзіцца маладзёжным жыллёвым комплексам, правільнаму і рацыянальнаму выкарыстанню існуючага фонду, яго абнаўленню. Рэканструкцыя старых няадобраўпарадкаваных будынкаў дазволіць стварыць тысячам мінчан больш спрыяльныя ўмовы для пражывання.

Побач з гэтымі актыўней будуць вырашацца пытанні паляпшэння архітэктурнага аблічча горада, комплекснай забудовы. У мінчан ужо стала правілам, калі аднachасова з жылымі дамамі раскрываюць свае дзверы школы і дзіцячыя сады, магазіны і аптэкі. Такой забудовай, напрыклад, вызначаюцца мікраёны Усход, Кунцаўшчына, Захад, Зялёны Луг і іншыя. А ў інстытуце «Мінскпраект» распрацоўваецца адзіная серыя буйнапанельных дамоў. У ёй значна палепшацца планіроўка і камфартабельнасць кватэр, павялічацца плошчы кухань, антрэсоляў, у лоджыях будзе спецыяльная гаспадарчая зона.

Шырыцца і будаўнічая палітра. Калі яшчэ ўчора прыярытэт заставаўся за індустрыяльным домабудаваннем, то сёння больш увагі надаецца ўзвядзенню будынкаў з цэглы, маналітнага бетону.

І яшчэ адно дапаўненне. Перабудова і публічнасць закранулі і гэту хвалюючую сёння многіх жыхароў рэспублікі справу. Таму работнікі Мінскага гарвыканкома, архітэктары часта прыходзяць у будаўнічыя арганізацыі параіцца з рабочымі, інжынерамі, як сумесна вырашаць праблемы, каб расказаць аб ходзе выканання жыллёвай праграмы, бліжэйшых перспектывах. Такі калектыўны савет дапамагае лепш выявіць складанасці, здзяйсняць задуманае.

**Мікалай БАЖКО.**

# НА МАГІЛЁЎСКІМ АЎТАЗАВОДЗЕ





**Разам з удасканаленнем і развіццём вытворчасці на Магілёўскім аўтазаводзе выконваецца і шырокая сацыяльная праграма. Тут працоўныя поспехі напрамую звязваюць з умовамі, у якіх жывуць і адпачываюць рабочыя, спецыялісты прадпрыемства. Таму ў цэхах павялічваецца колькасць аўтаматычнага абсталявання, паточных і механізаваных ліній. У абедзенны перапынак перад работнікамі раскрываюць дзверы тры сталовыя і некалькі буфетаў. Для аказання сучаснай медыцынскай дапамогі пры заводзе адкрыта паліклініка, пяць год назад пабудаваны санаторый-прафілакторый «Кіравец» на 100 месцаў. А ў заводскім Доме культуры шмат робіцца для арганізацыі карыснага і цікавага адпачынку аўтазаводцаў, павышэння іх культурнага ўзроўню.**

**НА ЗДЫМКАХ: галоўны канструктар завода Мікалай СІДАРАЎ (другі злева) абмяркоўвае з калегамі чарговую навінку; Аляксандр ВЕРАКСА набывае рабочую прафесію ў базавым вучылішчы завода; санаторый-прафілакторый «Кіравец»; ідзе рэпетыцыя заводскай мастацкай самадзейнасці. На сцэне інжынер Валянціна ШПАКОЎСКАЯ і начальнік бюро Андрэй ХАДЗЬКО.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**





# ЭКРАН БЕЗ ПЕРАШКОД

Два-тры тэлевізары і ўсяго адну антэну можна скарыстаць дзякуючы невялікаму разваднаму прыбору, выпуск ягога асвоіў мінскі кааператыў «Дыполь». Устаноўлены ў кватэры, ён, па-першае, эканоміць дэфіцытны антэнны кабель, а па-другое, узмацняе сігналы радыётэлецэнтра ў адрозненне ад аналагічнага ўстройства, якое традыцыйна прымяняецца з той жа мэтай. Новы прыбор прыйдзецца даспадобы многім: сёння каля дваццаці працэнтаў жыхароў буйных гарадоў, як сцвярджае статыстыка, маюць у доме два тэлепрыёмнікі, паступова расце колькасць такіх сямей і на перыферыі. Прыбор ужо паступіў у магазіны культгандлю, з якімі кааператыў заключыў дагавор аб пастаўках сваёй прадукцыі ў розничны продаж.

А вось наступная навінка гэтага калектыву — мініяцюрныя ўзмацняльнікі — прызначана толькі для работнікаў атэлье, кааператыва «Пульс», іншых арганізацый, якія займаюцца ўстаноўкай індывідуальных тэлевізійных антэн і падключэннем «хатняга кіно» да антэн калектыўнага карыстання. Гэты прыбор таксама ўзмацняе сігнал на шляху да кожнага тэлевізара. А маюць патрэбу ў гэтым вельмі многія. Толькі ў Мінску, напрыклад, каля 90 тысяч кватэр знаходзяцца ў зоне радыёценяў, яшчэ 9,5 — у сферы радыёперашкод, 162 тысячы атрымліваюць тэлесігналы аслабленымі. Разам з будаўніцтвам новых рэтранслятараў, развіццём кабельнага тэлебачання прымяненне такіх узмацняльнікаў значна набліжае вырашэнне праблемы высакаякаснага паказу праграм. Да таго ж іх выкарыстанне выключае «хуліганства» ў эфіры, калі іншыя ўладальнікі бытавой тэлетэхнікі спрабуюць падключыцца непасрэдна да цэнтральнага ствала агульных антэн, што перашкаджае суседзям.

**А. ГЛАДЫШАВА.**

# КАМЕНДОР «АЎРОРЫ»

**Ёсць у Бешанковіцкім гісторыка-краязнаўчым музеі раздзел, экспанаты якога расказваюць аб рэвалюцыйным мінулым краю, аб людзях, якія змагаліся за ўладу Саветаў.**

**На адной з фатаграфій у бесказырцы з надпісам «Аўрора» Сцяпан Асташкевіч. Сялянскі хлопец з беларускай вёскі Промыслы ў кастрычніцкія дні 1917 года быў камендорам, абслугоўваў артылерыйскую ўстаноўку легендарнага крэйсера, знаходзіўся ў самай гушчы рэвалюцыйных падзей, удзельнічаў у штурме Зімняга палаца. Пасля грамадзянскай вайны вярнуўся ў родныя мясціны. Працаваў сакратаром сельсавета, у раённым зямельным аддзеле. У мірных штодзённых справах памагаў умацоўваць уладу рабочых і сялян. У вёсцы так і звалі яго потым «матросам», а хлапчукі стаіўшы дыханне слухалі яго расказы пра Петраград, пра рэвалюцыю.**

**Разраслася дынастыя камендора. Ёсць у ёй і сельскія працаўнікі, і настаўнікі, і інжынеры, і партыйныя работнікі. Але чым бы ні займаліся яны, усе аб'яднаны адным жаданнем: быць дастойнымі памяці дзеда-камендора рэвалюцыйнага крэйсера «Аўрора».**




**НА ЗДЫМКУ: камендор «Аўроры» Сцяпан АСТАШКЕВІЧ (фота 1915 года).**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

## ЛЮДЗІ, ЯКІМІ ГАНАРЫМСЯ

# *А СЛЯДЫ ЗАСТАНУЦЦА*

**Дзесяць гадоў назад рашэннем гарадскога Савета народных дэпутатаў беларускай сталіцы было прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін горада-героя Мінска» военачальніку А. Бурдзейнаму, камандзіру танкавага ўзвода М. Казлычаву, будаўніку Д. Булахаву. Яны паклалі пачатак спісу добра вядомых у нас і паважаных людзей, тых, хто вызначыўся ў ваеннае ліхалецце пры вызваленні Мінска, хто адбудоўваў і будуе яго цяпер, хто ўнёс вялікі ўклад у развіццё літаратуры, навукі, спорту, вытворчасці. Такі быў пачатак новай традыцыі ўшанавання дастойных грамадзян нашага горада.**

**Летась гэты спіс папоўнілі яшчэ пяць чалавек: народны паэт Беларусі М. Танк, Герой Сацыялістычнай Працы ўрач Т. Бірыч, Герой Савецкага Саюза маршал бранетанкавых войск А. Лосік, народны артыст БССР, кампазітар У. Алоўнікаў, Герой Сацыялістычнай Працы будаўнік А. Громаў. Прапануемыя абразкі — толькі невялічкія эпізоды і штрышкі з жыцця новых ганаровых грамадзян Мінска, кароценькія ўспаміны тых, хто сустракаўся з імі.**

### ГАІЛІ РАНЫ ВЕРШЫ

...Бразнуў замок. Дзверы камеры прыадчыніліся. Турэмшчыкі літаральна ўкінулі скатаванага вязня.

Яго асцярожна паклалі на старую сярмягу. Нехта клапатліва падсунуў пад галаву пустую торбу. Міхаіл Шоцкі схіліўся над сябрам, стаў суцяшаць:

— Цярпі, Кастусь! Не з аднаго цябе паны так паздзекаваліся. Ва ўсіх баляць раны... Нічога, прыйдзе і наш час, час расплаты.

Кастусь Дударэвіч нічога не адказаў, ляжаў і цяжка стагнаў — паны пастараліся: жывога месца не засталося на целе.

Міхаіл не ведаў, чым дапамагчы сябру. Неяк непрыкметна рука пацягнулася за пазуху, намацала скамечаны аркуш. І вось ужо Шоцкі пасунуўся бліжэй да маленькага турэмнага акенца, каб было святлей, пачаў чытаць:

**Рукой мазольнай скрышым краты,**
**Сачы астрожных катаў крок!**
**Не забывай пра дзень расплаты,**
**Калі сарвеш з дзвярэй замок!**
**Не забывай!..**

Калі ён скончыў чытаць і азірнуўся, то ўбачыў, што яго слухае ўся камера. Нават скатаваны Кастусь Дударэвіч, нібы забыўшыся пра свае раны, прыўзняў галаву і ціха, шэптам паўтараў радкі з вершаў.

Пасля спытаў:

— Міша! Хто склаў гэтыя вершы пра нас, ты?

Шоцкі адмоўна пакруціў галавой.

— Не, не я. Мне перадалі, калі быў на прагулцы ў двары турмы. Казалі, што нехта з вязняў, хто сядзіць у суседняй камеры...

Прыйшло вызваленне. Пакінулі віленскую турму першыя камунары вёскі Асташына, што на Навагрудчыне, Міхаіл Шоцкі і Кастусь Дударэвіч.

Было вызваленне Чырвонай Арміяй Заходняй Беларусі, былі цяжкія гады барацьбы з фашысцкімі захопнікамі, пасляваеннага аднаўлення. Былыя вязні не гублялі надзею даведацца пра аўтара тых турэмных вершаў.

Рана памёр Кастусь. Панская турма не прайшла дарэмна.

...Неяк пляменнік прынёс з бібліятэкі невялікі зборнік вершаў. Міхаіл Шоцкі наўздагад адкрыў кніжку і... ледзь не аслупянеў: перад вачамі былі тыя ж радкі:

**Рукой мазольнай скрышым краты,**
**Сачы астрожных катаў крок!..**

Вось тады і даведаўся Міхаіл Шоцкі, што аўтарам вершаў, якія гаілі раны вязняў, быў Максім Танк. Гэта ён, нягледзячы на строгую забарону белапольскіх турэмных улад віленскай турмы, змог выпусціць кніжку «На этапах». У яе ўвайшлі радкі з таго верша «Не забывай», якія чытаў у камеры Міхаіл Шоцкі.

Асташынскаму селяніну пашчасціла сустрэцц[illegible] дэпутатам Вярхоўнага С[illegible] СССР, старшынёй Саюза пісьменнікаў БССР, членам Савецкага камітэта абароны міру Максімам Танкам на адным са святаў у Навагрудку.

### «МАМА, Я [illegible]У!»

...Час наканаваў Марыі Вялёндзе з вёскі Навасёлкі, што на Гродзеншчыне, цяжкія выпрабаванні. Спачатку было пісьмо камандзіра вайсковай часці з фронта. Кароткае, але бязлітаснае. Колькі разоў палітыя слязьмі сялянкі радкі: «Ваш муж загінуў смерцю храбрых у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі».

Яна не давала веры. Выходзіла і выходзіла да веснічак і ўсё ўглядалася ў бок шашы. Няма нікога. Ніхто не ідзе. Ні ўчора, ні сёння... ні праз год, ні праз тры.

Нарэшце Марыя Вялёнда зразумела, што надзея згублена. І цяпер усю сваю ўвагу і ласку яна аддавала адзінай дачцэ. Дзяўчына расла і прыгажэла. Ужо хлопцы заглядваліся на яе Аляксандру, ужо суседкі па-добраму зайздросцілі маці, як раптам новае гора абрушылася на Марыю Вялёнду. І вінаватай у ім была адна яна...

Позним цёмным вечарам Аляксандра вярталася са школы. Ішла нацянькі, агародамі, Не ведала дзяўчына, што маці днём нацягнула калючы дрот паміж слупамі, каб не заходзілі з пашы на двор каровы. Аляксандра спяшалася па знаёмай сцяжынцы і ў цемры не заўважыла дрот: наткнулася якраз вачамі. Дзяўчына аслепла.

Жыццё, потым расказвала Марыя Вялёнда, страціла для яе ўсякі сэнс. Жанчына не памятала, як Аляксандру адправілі ў Мінск, колькі часу прабыла там дачка. Усё валілася з рук. Прыходзілі суседзі, суцяшалі, здаралася, самі кармілі яе карову, курэй.

Аднойчы калгасніцу забралі і павезлі. Куды?.. Ёй было ўсё роўна.

Папрасілі пачакаць у прыёмным пакоі. А пасля яна доўга не магла паверыць, што гэта не сон. Адчыніліся дзверы, і яе дачка, Аляксандра, кінулася ёй насустрач з радасным крыкам:

— Мама, я бачу!..

Хто стварыў такі цуд? Марыя Вялёнда і яе дачка запомнілі прозвішча: Таццяна Бірыч.

Сотні тысяч людзей ва ўсім свеце ўдзячны ёй. Таццяна Васільеўна распрацавала метад правядзення аперацый на крышталіку вока з дапамогай холаду. За гэта Таццяне Бірыч прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, яна — член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР.

### МУЖНАСЦІ НІЗКІ ПАКЛОН

3 ліпеня 1944 года. На вуліцах Мінска яшчэ грымелі стрэлы гармат, кулямётаў — азвярэлыя фашысты ўсімі сіламі стараліся стрымаць наступленне Савецкай Арміі.

Вось ужо некалькі танкаў з пяцікандовымі зоркамі праравалі абарону ворага і імкліва панесліся па цэнтральнай вуліцы разбуранага горада. Як ні спяшалася першая машына, але ёй прыйшлося на хвіліну затрымацца. Гэта нешматлікія жыхары беларускай сталіцы перагарадзілі ёй шлях.

Смех, слёзы радасці, жывыя кветкі — такое не забываецца. Танкістаў гушкалі, ціскалі ў абдымках, цалавалі. А яны стараліся вырвацца, угаворвалі адпусціць: спяшаліся далей, біць ворага.

— Я тады не ведаў: у тым першым танку, які ўварваўся ў Мінск, быў Дзмітрый Фролікаў, што пазней атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. Не мог растлумачыць загадкавай літары «Л» на бране баявой машыны,— расказвае ветэран вайны і працы, падпольшчык, сябар Міхаіла Кедышкі, токар вытворчага аб'яднання імя Леніна Аўгусцін Галавацкі.

Даведаўся ўжо пасля вайны. Аказалася, што літара — абазначэнне танкавай брыгады Лосіка, названай імем яе камандзіра. Гэта воінскае падраздзяленне праславілася не толькі пры вызваленні Мінска, але і пад Варшавай, Прагай, Венай, пры штурме Берліна.

...Стаіць у самым цэнтры горада, ля Дома афіцэраў на пастаменце, танк нумар 145. Нехне, ды і ўбачаць мінчане ля баявой машыны сівога чалавека ў форме маршала бранетанкавых войск. І амаль кожны жыхар беларускай сталіцы ведае яго. Гэта Герой Савецкага Саюза Алег Лосік. Камандзір тых першых танкаў, што прынеслі ліпеньскім днём вызваленне [illegible]ларускай сталіцы ад фаш[illegible]х захопнікаў.

Але[illegible] Аляксандравіча адразу акружаюць мінчане, і завязваецца гутарка. Праслаўлены камандзір расказвае аб тых незабыўных днях, аб сваім падначаленым лейтэнанце Дзмітрыі Фролікаве, танк якога і ўстан[illegible]ы цяпер на гэтым пастам[illegible]е, нібы сімвал мужнасці ўсіх воінскіх падраздзяленняў, што вызвалялі Мінск.

Зараз Алег Лосік жыве ў Маскве, выкладае ў ваеннай акадэміі.

### ПЕСНІ НАД НЁМАНАМ

Я сядзеў за партай і касавурыўся на суседку Марыю Сасім: «Задзірае, напэўна, свой нос. Яшчэ б! Хор нашага калгаса на раённым аглядзе не трапіў на абласны конкурс мастацкай самадзейнасці. Гэта значыць, прыйдзецца пакуль пачакаць з паездкай у Гродна. А так хацелася трапіць у вялікі горад! Затое туды паедзе Марыя, мая аднакласніца (вучыліся мы ў Любчанскай сярэдняй школе, на Навагрудчыне), паедзе ў складзе хору суседняй вёскі Дзяляцічы.

Не мог я тады яшчэ ўявіць, што гэта толькі пачатак. Мае аднакласнікі, салісты мастацкага калектыву, Марыя Сасім, Люба Шарэцкая, Лявон Бушма, пабываюць не толькі ў Гродне, але і ў Мінску, Маскве... Потым гастрольныя маршруты цяпер ужо народнай харавой капэлы калгаса «Сцяг Саветаў» пралягуць у Польшчу, Балгарыю, іншыя краіны.

Узлёт на вяршыню славы быў імклівым. І ў гэтым «вінаваты» народны артыст СССР Генадзь Цітовіч. Гэта ён у час фальклорнай паездкі па Навагрудчыне пачуў спеў дзяўчат з Дзяляціч. І ўзяўся дапамагчы арганізаваць самадзейны калектыў.

Але ёсць і яшчэ адзін чалавек, якому абавязаны сваім поспехам дзяляціцкія артысты. Імя яго вядома далёка за межамі рэспублікі і краіны. Творчы шлях капэлы пачаўся з песень народнага артыста БССР, кампазітара Уладзіміра Алоўнікава.

...Стаіць вёска Дзяляцічы над самым Нёманам. Як часта ўвечары ліюцца над ім песні — аб самой рацэ, аб прыгажосці роднага краю. А «Лясная песня», «Радзіма мая дарагая», напісаныя Уладзімірам Алоўнікавым, сталі пастаяннымі ў рэпертуары народнай капэлы.

Дарэчы, не толькі самадзейныя артысты з Дзяляціч выконваюць творы беларускага кампазітара. Яны ў рэпертуары амаль усіх прафесійных і самадзейных калектываў Беларусі.

### ГРОМАЎ — ІМЯ ВЯДОМАЕ

Брыгадзір муляраў Аляксандр Мацвеевіч нерваваўся. Час праводзіць «лятучку», расстаўляць людзей па рабочых месцах, а турыст з ЗША, здаецца, не думае заканчваць гутарку. Размаўлялі на розных мовах — рускай і англійскай, больш — жэстамі, але яны добра разумелі адзін аднаго, Аляксандр Громаў і Бент Маклеуд, бо працуюць будаўнікамі.

Замежнага турыста цікавіла многае. І што ўзводзіць брыгада калегі, і з якога матэрыялу — часам Бент браў у рукі цагліны, стараўся вызначыць іх якасць, мацаў сцены будынка, нібы правяраў яго моц...

Нарэшце яго паклікала перакладчыца-экскурсавод. Праз нейкія хвіліны камфартабельны «Ікарус» каціў па вуліцах Мінска.

Экскурсавод давала тлумачэнні. Час ад часу звярталася нібы да аднаго Бента: «Гэтыя будынкі ўзводзіў Аляксандр Громаў».

Бент радасна азіраўся на сваіх суайчыннікаў у аўтобусе. І выраз яго твару нібы пацвярджаў: «Так, будаваў мой сябар, Аляксандр Мацвеевіч...»

Напэўна, ён, Аляксандр Громаў, і не мог выбраць іншую прафесію. За свае франтавыя гады ён нагледзеўся і на разбураныя гарады, і на бяздомных людзей.

— Яшчэ тады, у час вайны,— гаворыць,— калі мы дабівалі фашыстаў, я даў сабе клятву стаць будаўніком. Ці можа быць большае шчасце, чым бачыць дом, узведзены тваімі рукамі, радасць на тварах людзей, якія атрымалі ключы ад новай кватэры!

...Неяк спецыялісты паспрабавалі падлічыць, колькі будынкаў узвёў Аляксандр Громаў, яго брыгада. Атрымалася вялікая лічба. Без перабольшання — цэлы горад!

— А цяпер,— жартуе Аляксандр Мацвеевіч,— пабудуем яшчэ больш. Мне на дапамогу прыйшлі сыны: інжынерам працуе на будоўлях беларускай сталіцы Віктар, а Генадзь — прарабам.

Сапраўды, Громавы — прозвішча вядомае. Вядомае і паважанае...

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

*МНЕНИЕ УЧЕНОГО*

# РАЗВИТИЕ ТЕОРИИ СОЦИАЛИЗМА В СССР

В последние годы жизни Ленина беспокоили две важнейшие задачи. Первая: как поставить рынок под контроль плана, каким образом государство должно овладеть рынком? Вторая: как подчинить массам государство, его аппарат, превратив его в орган самоуправления? Так получилось, что решение этих задач актуально и сегодня, ибо социализм оказался во многом деформированным, а его развитие пошло иным путем, когда И. В. Сталин на посту Генерального секретаря Центрального Комитета партии начал с 1929 года принимать решения единолично.

## СТАЛИНСКАЯ МОДЕЛЬ СОЦИАЛИЗМА

Сталин создал свою модель социализма, используя по форме ленинское наследие (товарность и государственность), но извратив его по сути. Поставленную Лениным проблему — найти способ согласования плана и рынка — он решил. Но решил, отбросив в конце 20-х годов нэп, а вместе с ним и элементы рождающегося рынка, перейдя к прямым, командным методам управления. Товарно-денежные отношения были низведены им до учетно-регистрационных, а деньги, как и предсказывал Энгельс, к простым квитанциям. Но государство не только не стало немедленно отмирать, а безмерно усилилось.

В сталинской модели социализма была заложена утопическая надежда на то, что огосударствление средств производства как бы автоматически приведет к стремительному скачку из «царства необходимости в царство свободы». Однако в условиях предельной централизации средств производства возникла опасная монополизация аппаратом государства всех ресурсов жизни. Контроль над функциями власти стал определять контроль над собственностью, а производственные отношения оказались поглощенными политическими регуляторами. Такая чрезмерная политизация всех общественных отношений, с одной стороны, устранила подлинную политику, свела ее к волюнтаризму одних и аполитичности других, с другой — создала тупик в экономической жизни.

Огосударствление основных средств производства было воспринято как необходимый и достаточный критерий обобществления и даже как его финал. Власть над средствами производства предоставила госаппарату монополию на представительство общественных интересов. Одновременно причастность к управлению, к власти стала обеспечивать экономические привилегии.

Характерными чертами сталинской модели социализма стали:

— тотальная централизация управления всеми сферами общественной жизни; административно-командные методы в сочетании с государственным террором, вплоть до организации массовых репрессий и создания лагерей с принудительным трудом в них;

— экстенсивный и затратный хозяйственный и политический механизм, при котором полностью исключается оценка достижений на основе социальной эффективности;

— отказ от ценностей предшествующих форм демократии, устранение масс от управления и формализация институтов демократии; отказ от идеи самоуправления. Сакрализация власти вплоть до культа личности;

— неподвластность общественной жизни даже формальным демократическим процедурам, сращивание партийного и государственного аппарата; контроль исполнительных органов над выборными; выход карательных органов из подчинения законам и обществу и как результат — произвол.

Все эти черты деформированного, «казарменного коммунизма» прямо противоположны самоуправленческому социализму, идеалам социального освобождения, за что боролись Маркс, Энгельс, Ленин.

После Ленина в советской партийной и пропагандистской литературе надолго восторжествовало вульгарно-экономическое понимание социализма, «грубо-вещественный» взгляд на него. Огосударствление средств производства в качестве высшего критерия обобществления и создание колхозов дали основание заявить в 1936—1939 годах о полной победе социализма. Уже в 1939 году на XVIII съезде партии была поставлена задача непосредственного перехода к коммунизму. Убеждение в быстром переходе к высшей фазе нового строя получило затем свое выражение в тезисе, выдвинутом в 1961 году на XXII съезде КПСС, об этапе развернутого строительства коммунизма, в который якобы вступила страна.

Но постепенно, хотя и небезболезненно, шел процесс отрезвления. В 1967 году вслед за рядом братских стран, объявивших об этапе строительства развитого социализма, руководство КПСС заявило о том, что в СССР построено развитое социалистическое общество. Затем речь стала идти о совершенствовании на собственной основе, т. е. на законах и принципах социализма. Но явное несоответствие между провозглашаемым этапом и трудностями реальной жизни большинства населения заставило Ю. Андропова заявить о том, что СССР находится лишь в начале длительного этапа развитого социализма.

## ПЕРЕСТРОЙКА: ВОЗВРАЩЕНИЕ К ЛЕНИНСКИМ ИДЕЯМ

В настоящее время термин «развитой социализм» вообще исчез из официального политического лексикона и заменен термином «развивающийся социализм». Думается, что в этом осторожном термине, с одной стороны, есть признание победы социалистического строя, а с другой — отказ от насильственной схемы, от навязывания жизни искусственно сконструированных этапов и исторических вех. На январском (1987 года) Пленуме ЦК КПСС были подвергнуты критике легковесные представления о коммунизме, разного рода пророчества и абстрактные суждения.

Важно то, что в настоящее время в СССР идет процесс решительной десталинизации, возвращения к ленинским идеям, на базе которых рождается новая модель социализма, отвечающая реальным условиям и избавленная от утопизма и доктринерства. Разумеется, было бы ошибочным полагать, что эта модель будет разработана вначале на партийных пленумах, научных симпозиумах и в монографиях, а затем осуществлена на практике. Практика, жизнь не только критерий теории, но и ее источник; однако и без теории, без серьезного обобщения практики ни эксперименты, ни суровые будни перестройки никогда не приведут к системному обновлению советского общества.

Требование более пристального изучения самой жизни привело к тому, что сейчас в советской науке и публицистике пробивают себе дорогу мысли о том, что сложился государственный социализм, что надо вернуться к пониманию социализма как самоуправляемого общества.

Прежде всего утверждается понимание сути социализма не как государственного, а как ассоциативного, коллективистского, при котором открываются многообразные формы взаимосвязи инициативы личностей, коллективов и общества.

Происходит отказ от стремления к игнорированию и унификации интересов, от административного и принудительного подчинения их к признанию их многообразия, к демократическим способам их выражения. Концепция многообразия социалистических форм общественной жизни, утвердившаяся на XXVII съезде КПСС, привела и к признанию, наряду с государственной собственностью, необходимости дальнейшего развития различных форм кооперации и индивидуальной трудовой деятельности.

Возобновился процесс дальнейшего обобществления и в рамках государственной формы собственности благодаря осуществляемому перераспределению части прав распоряжения ею от центрального госаппарата к предприятиям. В этом случае со стороны государства не ослабевает контроль за общими интересами, а изменяются лишь его формы, так как центр тяжести смещается на хозрасчетные рычаги.

Полный хозрасчет — это, по существу, способ возрождения адекватных социализму отношений собственности, способ утверждения хозяйских отношений тружеников. Создается основа для массовой инициативы, самостоятельности, делового риска. Преодолевается уравниловка в оплате труда, поощряются талант, трудолюбие, профессиональная компетентность.

Началась радикальная реформа хозяйственного механизма на основе повышения роли товарно-денежных отношений. Большее значение придается социалистическому рынку, его функциям, присущим ему договорным отношениям между производителями и потребителями, вплоть до договорных отношений между предприятиями и управленческими звеньями. Цель — преодолеть диктат производителя над потребителем, использовать состязательность и даже социалистическую конкуренцию в качестве двигателя социально-экономического прогресса.

Речь идет о контроле общества над государственными институтами, создании системы конституционных и правовых гарантий перестройки, последовательной демократизации, широкой гласности в работе всех звеньев управления, многообразных способах защиты личности от бюрократических структур. Назрела необходимость осуществить преобразования и политической системы, которую, как считал Ленин, надо постоянно доделывать и переделывать. Перестройка немыслима без всестороннего обновления, без использования и развития социалистического плюрализма. Социализм — это общество нарастающего многообразия в суждениях, взаимоотношениях, деятельности людей.

Необходима такая перестройка советской общественной системы, которая бы создавала возможность ее непрерывной адаптации в соответствии с меняющимися условиями. В самом механизме строя должны быть заложены способности к саморегуляции, к гибкой и быстрой реакции на потребность обновления.

**Виктор КИСЕЛЕВ,**
**кандидат философских наук.**
(АПН).

— ТОТ, КОМУ действительно дороги идеалы мира и свободы, кто на деле, а не на словах печется о равенстве народов, о их праве на самоопределение, тот не может спокойно взирать на произвол и беззаконие, которые чинят израильские оккупационные власти на западном берегу реки Иордан, в секторе Газа, других арабских землях.

Эти слова, вызванные тревогой за судьбы палестинского народа, его будущее, прозвучали из уст известного советского скульптора, действительного члена Академии художеств СССР Заира Азгура, с которым я встретился в его мастерской.

80-летний маэстро, произведения которого снискали всенародное признание, внимательно следит за всеми событиями, происходящими сегодня в мире. Его мечта — видеть мир без войн и межнациональных конфликтов, отбрасывающих человечество к временам варварства. Он активный сторонник движения за мир, почти тридцать лет возглавляет Белорусское отделение Советского фонда мира. Репрессии, к которым прибегают оккупационные власти по приказу Тель-Авива, против палестинцев, поднявшихся на защиту своих прав, Заир Азгур считает преступными. По его словам, каждый выстрел, который раздается на западном берегу реки Иордан и в секторе Газа, отзывается в его сердце острой болью.

— Я пытаюсь, — говорит Заир Азгур, — найти объяснение той жестокой, непримиримой позиции, которую заняли правители Израиля по отношению к палестинскому народу, его законным требованиям

**ЗАИР АЗГУР: «НЕ ПРИМЕРУ ЛИ ГИТЛЕРОВЦЕВ РЕШИЛИ ПОСЛЕДОВАТЬ В ТЕЛЬ-АВИВЕ!»**

# НА ЧУЖОМ ГОРЕ СЧАСТЬЕ НЕ ВЫСТРОИШЬ

создать на родной земле свое палестинское государство. На чем она основывается, эта непримиримость? На сионистской идеологии исключительности еврейской нации, которая не оставляет места никакой другой? На уверенности в безнаказанности из-за поддержки такого сильного покровителя, как США?

Мне хочется напомнить тем, кто стоит у кормила власти в Израиле, одну широкоизвестную в народе нравственную заповедь, вобравшую опыт многих прошлых поколений: «На чужом горе и страданиях свое счастье не выстроишь».

Я часто задаю себе такой вопрос: мучают ли угрызения совести тех, кто отдает приказы стрелять в людей, которые идут в колоннах мирных демонстраций, выселять палестинцев с родных, обжитых мест, сгонять их в специально созданные для них лагеря? Пробовал ли кто-либо из инициаторов этих акций поставить себя на место палестинцев: смирился бы он с таким унизительным положением?

Когда я смотрю телевизионные кадры, знакомящие с горестными событиями, которые происходят на оккупированных арабских землях, в моей памяти невольно возникают картины 46-летней давности, когда на землю моей родной Белоруссии ворвались немецко-фашистские захватчики. На улицах городов и сел появились виселицы, неотъемлемыми атрибутами оккупационных властей стали концентрационные лагеря. Их насчитывалось в Белоруссии свыше 200. В них ежедневно от голода, холода, болезней умирали тысячи людей. В таком лагере погибла и моя мать. Каждый четвертый житель Белоруссии стал жертвой политики геноцида, проводимой здесь гитлеровскими оккупантами.

Согласно рекомендациям гитлеровских идеологов, в Белоруссии предполагалось уничтожить 75 процентов населения, чтобы создать свободную зону для колонизации.

Не примеру ли гитлеровцев решили последовать в Тель-Авиве?

Казалось бы, что из своей многовековой истории человечество могло бы извлечь серьезные уроки. К сожалению, и сегодня нам приходится встречаться с фактами, когда некоторые правители в угоду своим честолюбивым замыслам создать в глазах простых обывателей авторитет великих благодетелей своего народа готовы пренебречь элементарными нормами добрососедских отношений, пойти на любые преступления. И все-таки я верю, что люди могут жить в мире и согласии, уважать и ценить друг друга.

Об этом могу судить на примере моей жизни! Я выходец из еврейской семьи. Мне было 5 лет, как умер отец. Но я никогда не чувствовал себя сиротою, обездоленным. Вся жизнь моя связана с Белоруссией, ее народом, который так щедр на доброту и участливость. Первым моим учителем стал гончар Пилип Потапенко, который обратил внимание на мой интерес к художественной лепке. Мое увлечение поддержал молодой человек Иван Рябушкин, который позаботился определить меня в художественную мастерскую Ю. Пэна. В годы учебы, творческого становления моим опекуном стал великий белорусский поэт Янка Купала.

Я убежден, я твердо верю, что люди могут жить как братья. Меня радует, что в Израиле среди простого народа, творческой интеллигенции все громче раздаются голоса в защиту палестинского народа, ширится движение за вывод израильских войск с оккупированных арабских территорий, за создание палестинского государства.

К их голосу присоединяю свой голос и я.

**Анатолий СТУК.**

*ПЕРАБУДОВА Ў КУЛЬТУРЫ*

# ДОБРЫ ПАЧАТАК—ПАЛАВІНА СПРАВЫ

ПЕРАБУДОВА ў савецкай культуры ўспрымаецца значнай часткай замежных назіральнікаў як з'ява новая, незвычайная, якая не мае прэцэдэнтаў у сацыялістычнай практыцы. Гэта памылка. Тое, што адбываецца сёння, базіруецца на ідэях Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 года. Па сутнасці, ідзе адраджэнне і далейшае развіццё ленінскіх прынцыпаў у мастацтве.

У святле культурных перамен у цэнтры ўвагі грамадскасці сёння аказаліся тры праблемы. Пытанне аб адносінах да духоўнай спадчыны. Узаемаадносіны творчай інтэлігенцыі і дзяржаўных органаў культуры. Пытанне аб самой мастацкай творчасці, яе мэтах і задачах.

Ленінскі пункт погляду на культурную спадчыну агульнавядомы. Правадыр выступаў за захаванне ўсяго каштоўнага, што было створана ў папярэднія эпохі. І не толькі выступаў, але і дзейнічаў. Па яго асабістай ініцыятыве праводзілася рэстаўрацыя храмаў Маскоўскага Крамля, браліся пад дзяржаўную ахову дамы і маёнткі вядомых дзеячаў айчыннай культуры. На гэтых жа пазіцыях стаяў і першы нарком асветы А. Луначарскі.

З часам адносіны да помнікаў гісторыі страцілі ленінскую прынцыповасць. З аднаго боку, прымаліся правільныя пастановы і законы, якія бралі пад ахову шматлікія гістарычныя аб'екты. З другога боку, гэтыя пастановы часта не выконваліся, іх умела і не вельмі ўмела абыходзілі заўзятыя адміністратары і бюракраты. Добрая справа дрэнна праводзілася ў жыццё. Бывала так, што ў адным канцы краіны па мільённым каштарысе аднаўляўся старажытны помнік архітэктуры. У другім—такі ж помнік разбураўся толькі таму, што перашкаджаў вулічнаму руху.

Сёння пытанне аб ахове помнікаў—адно з самых актуальных. Аб увазе, якая зараз надаецца яму, сведчаць беспрэцэдэнтная актыўнасць насельніцтва, вострыя дыскусіі на з'ездах пісьменнікаў, мастакоў, архітэктараў, надзвычай рэзкія публікацыі ў прэсе.

У дадатак да ўжо функцыяніруючых арганізацый створаны Савецкі фонд культуры, найаўтарытэтнейшы грамадскі орган, які з першых сваіх крокаў прадэманстраваў, што ахова духоўнай спадчыны ў надзейных руках людзей, якія не збіраюцца дараваць самых малых адхіленняў ад прынятых законаў.

У Маскве, Ленінградзе, іншых гарадах людзі цяпер выходзяць на вуліцы і пікетуюць ля гістарычных аб'ектаў, намечаных на знос, звоняць службовым асобам, атакуюць рэдакцыі газет, радыё, тэлебачанне, пакуль не атрымаюць падтрымку ад дзяржаўных і савецкіх органаў. Так здарылася, напрыклад, у Маскве, калі будаўнікі ледзь было не разбурылі выяўлены пры капанні катлавана стары Кузнецкі мост праз раку Няглінку. Ім давялося пад напорам грамадскасці мост закансерваваць для далейшага аднаўлення ў поўным аб'ёме.

Сёння актыўнай аховай помнікаў займаюцца людзі ўсіх пакаленняў і прафесій. Іх дзесяткі мільёнаў. З іх думкай даводзіцца лічыцца ўсё часцей і часцей. І міжволі ўспамінаецца, як у лістападзе 1917 года на вуліцах Ленінграда (тагачаснага Петраграда) расклейвалася адозва маладой Савецкай улады: «Грамадзяне! Захоўвайце карціны, статуі, будынкі. Гэта ўвасабленне духоўнай сілы вашай і продкаў вашых».

Вядомы і ленінскі пункт погляду на творчую інтэлігенцыю. Ленін лічыў, што адміністраванне ў пытаннях творчасці недапушчальна. Ён ніколі не навязваў нікому сваіх асабістых мастацкіх сімпатый і настойваў на тым, што ў пытаннях мастацтва неабходны найвялікшы такт і цярпімасць. Ён заклікаў знаходзіць у мастацкіх творах карыснае нават тады, калі яны ствараліся з чужых сацыялізму пазіцый.

Гэтыя ленінскія ўстаноўкі, якія доўгі час знаходзіліся ў наўмысным забыцці, зноў атрымалі развіццё.

Сёння рэзка ўзрасла роля ўсіх творчых саюзаў, якія дзейнічаюць ва ўмовах дэмакратызацыі і галоснасці, актыўна выступаюць супраць усялякага роду бюракратычных рагатак і абмяжаванняў. Сёння ў літаратуры і мастацтве няма забароненых зон і імёнаў. Сёння змены ў культуры ідуць пад знакам ленінскага даверу да народа. «Белыя плямы» хоць яшчэ і застаюцца, але знікаюць адна за адной. Менавіта таму творчая інтэлігенцыя ў авангардзе перабудовы. Перабудова адпавядае яе надзеям і спадзяванням.

І нарэшце, трэцяе пытанне—аб самой мастацкай творчасці і яе задачах. Зноў параўнаем мінулае і сучаснае. У гутарцы з Кларай Цэткін Ленін падкрэсліў: «Важная не наша думка аб мастацтве... Мастацтва належыць народу... Яно павінна быць зразумелае масам і любімае імі. Яно павінна аб'ядноўваць пачуцці, думку і волю гэтых мас, узвышаць іх. Яно павінна абуджаць у іх мастакоў і развіваць іх».

Гэтыя словы—своеасаблівы эпіграф да тых працэсаў, што адбываюцца сёння ў мастацкай культуры. Сёння часопісы з творамі пісьменнікаў і публіцыстаў знікаюць з кіёскаў за лічаныя мінуты. Людзі, якія стаяць за гэтымі часопісамі, і ёсць народ. «Менавіта зараз,—сказаў вядомы паэт Андрэй Вазнясенскі,—наша краіна зноў усхвалявана павярнулася да літаратуры. Менавіта літаратура зараз можа зрабіць тое, што раней не магла б: спыніць паварот рэк, будаўніцтва недарэчнага помніка Перамогі. Літаратура стала дзейснай, пра што мы раней толькі марылі».

Дададзім, не толькі літаратура. І хоць два гады перабудовы—тэрмін вельмі малы, але, як гаворыцца, добры пачатак—палавіна справы.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

*РЭПАРТАЖ З ВЫСТАЎКІ «ЧАРНОБЫЛЯ ЧОРНАЯ БЫЛЬ»*

# ЗНАКІ БЯДЫ НА КВІТНЕЮЧАЙ ЗЯМЛІ

Я зноў і зноў іду на гэту выстаўку. Як прывароджаная, не магу адарвацца ад цудоўных палескіх краявідаў, што лашчаць вока і адначасова ўсяляюць у душу трывогу і разгубленасць, ад палотнаў, дзе сярод чалавечых постацей з'яўляецца дзіўная, нябачная дасюль істота — можа, іншапланецянін? — у белым камбінезоне і процівагазе. Але ж не, гэта не фантастыка, а наша з вамі рэальнасць. Яна раптоўна ўварвалася ў свядомасць чарнобыльскім выбухам, прымусіла па-іншаму паглядзець на свет, на сябе і на сваю будучыню.

На гэтай выстаўцы немагчыма застацца раўнадушным, спакойна аналізаваць мастацкія якасці работ і разважаць аб выдатках сучаснай цывілізацыі. Тут трагедыя зямлі і людская бяда. Злавесным прывідам ашчэрыўся чарнобыльскі саркафаг з ліста А. Фралянкова. У абрысы гэтага «манумента» XX стагоддзя ўглядаешся з пачуццём здзіўлення і жаху. Нясцерпны, амаль фізічны боль працінае наскрозь, калі бачыш на карцінах пакінутыя жыхарамі абжытыя і ўпарадкаваныя вёскі, забітыя калодзежы. Пустая сялянская хата з кінутай на парозе дзіцячай лялькай — ці не вобраз гэта ўсёй Зямлі, якую можа спасцігнуць такі самы лёс?!

На выстаўцы я пазнаёмілася з мастакамі, аўтарамі прадстаўленых у экспазіцыі твораў. Іх пяцёра: Уладзімір Кожух, Валерый Шкаруба, Віктар Барабанцаў, Аляксандр Фралянкоў, Мікалай Цудзік — нядаўнія выпускнікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута і мастацкага вучылішча. З творчай камандзіроўкі ў раён чарнобыльскай аварыі маладыя мінскія мастакі прывезлі каля 50 работ — жывапісных і графічных, а таксама мноства накідаў алоўкам, зробленых у дарозе, у час сустрэч з самымі рознымі людзьмі ў Брагіне і навакольных вёсках, у 30-кіламетровай зоне і на самой станцыі. Дарэчы, Віктар Барабанцаў родам з тых мясцін, у вёсцы Уза, што на поўдні Гомельшчыны, жывуць яго сваякі. Ім пашанцавала: не давялося пакідаць сваю зямлю і свой дом.

— Якую мэту ставілі вы перад сабой, вырашыўшы ехаць у зону Чарнобыля? — пацікавілася я ў Віктара Барабанцава.

— Аварыя, якая здарылася на АЭС і самым непасрэдным чынам закранула паўднёвую частку нашай рэспублікі, узрушыла да глыбіні душы,— кажа мастак.— Зразумела, дзякуючы прэсе, радыё, тэлебачанню, мы ведалі пра становішча ў небяспечнай зоне. Але хацелася на свае вочы ўбачыць усё, што там адбываецца, занатаваць убачанае, асэнсаваць яго і ўвасобіць у мастацкіх вобразах.

Яны рушылі ў дарогу ў цёплыя майскія дні, роўна праз год пасля аварыі. З камандзіровачнымі пасведчаннямі Саюза мастакоў БССР прыбылі ў Брагін — вялікі раённы цэнтр, што ляжыць непадалёку ад так званай «зоны адасаблення». Злашчаснай вясной 1986 года ў лексікон жыхароў гэтага правінцыяльнага гарадка сталі ўваходзіць напоўненыя маланаёмым дасюль і магічным сэнсам словы «радыяцыя», «радыеактыўнасць», «забруджанасць», «дэзактывацыя»... Агульнымі намаганнямі ратавалі тады Брагін: зразалі верхні «забруджаны» пласт зямлі, мылі дамы, знішчалі тое, што ўжо нельга было выратаваць.

— Мы пасяліліся ў мясцовай гасцініцы,— працягвае Віктар Барабанцаў.— Знешне нішто не нагадвала аб нядаўняй трагедыі. Дзеці ходзяць у школу, жанчыны з немаўлятамі прагульваюцца на вуліцах. Небяспека мінула — жыццё працягваецца... Але ўжо першыя сустрэчы з брагінцамі дазволілі адчуць, што перажылі тут людзі. У мясцовай бальніцы працуе фельчарам Людміла Ігнаценка. Яна адзіная сястра пажарніка Васіля Ігнаценкі, які загінуў, атрымаўшы пры тушэнні пажару на станцыі вялікую дозу радыяцыі. Урачы рабілі ўсё магчымае, каб захаваць юнаку жыццё, сястра дала яму свой касцявы мозг, але гэта ўжо не дапамагло. Сама Людміла прымала актыўны ўдзел у эвакуацыі жыхароў з навакольных вёсак. Яна расказвала, як часам нялёгка было скрануць з месца людзей сталага веку, што збіраліся перасядзець бяду ў хаце. Маладая жанчына падарыла мне фотакартку свайго брата, які пахаваны ў Маскве. І я напісаў яго партрэт. Героем карціны Міколы Цудзіка стаў лётчык, ён, прынамсі, жыў побач з намі ў гасцініцы. Надзвычай сціплы чалавек. Аказваецца, у крызісныя першыя дні аварыі ён здзейсніў дзесяткі палётаў з грузам на станцыю.

Менавіта такія простыя людзі, як Людміла Ігнаценка, механізатар Іосіф Заяц, салдаты, што займаліся дэзактывацыяй, дапамаглі нам тут адчуць усю глыбіню трагедыі, што разыгралася на гэтай зямлі. Можа быць упершыню я зразумеў, якія мужныя, моцныя духам мае землякі, якая невынішчальная прага жыцця ў маім народзе.

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ВЯДУЦЬ ДАРОГІ НА ПАЛЕССЕ

Творчы лёс Міколы Мятліцкага, можна сказаць, шчаслівы. Зямляк Івана Мележа, ён хутка ўвайшоў у літаратуру і адразу вылучыўся сярод сваіх аднагодкаў, і перш за ўсё дзякуючы таму, што шмат усхваляваных вершаў прысвяціў роднаму Палессю, цудоўнаму кутку беларускай зямлі. Першыя творы, як гэта і бывае з пачаткоўцамі, змясціў у раённай газеце. Сапраўднае ж адкрыццё, як аўтара самабытнага, непадобнага да іншых, адбылося, калі нізка вершаў маладога паэта з'явілася ў часопісе «Полымя». Благаслаўляў іх у друк Анатоль Вялюгін.



Не памыліўся ён у М. Мятліцкім, і калі пісаў прадмову да яго першага зборніка «Абеліск у жыце», што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1980 годзе ў серыі «Першая кніга паэта». «Па-салдацку мужна і сціпла, з пэўным рыгарызмам заваёўваецца права на песню. У наймалодшага пакалення трывалая памяць і вернасць салдатам свабоды, плугарам і сейбітам, над якімі маўчаць абеліскі ў жытнёвай паводцы Палесся». Такімі словамі заканчваў А. Вялюгін сваё пажаданне пачынаючаму паэту.

Ужо ў зборніку «Абеліск у жыце» вызначыліся асноўныя тэмы творчасці М. Мятліцкага—памяць аб мінулай вайне і вернасць палескай зямлі. Сёй-той можа запярэчыць: якая яшчэ памяць аб вайне ў паэта, што нарадзіўся ў 1954 годзе?! Дастаткова такому апаненту працытаваць адзін з лепшых ранніх вершаў М. Мятліцкага, каб пераканаць яго: права на сваю памяць аб вайне паэт мае: «Мне ў сэрца грукае штодня, як падарожны ў дзверы дома, мая падобнасць і радня—салдат з Айчыннай невядомы. І просіць ціха: «Адчыні. Я на марозе, дай пагрэцца...» Як шматзначна гучыць завяршэнне твора: «Ён патрабуе: «Адчыні!». І адчыняю... Адчыняю...»

Вернасць бацькоўскаму куту—у шэрагу вершаў аб тым, што асабліва дорага і блізка. І трэцяя тэма—яна паяднала сабой дзве першыя—барацьба за мір. Як ні ў кога з маладых паэтаў, яна прагучала ў «Абеліску ў жыце». Найперш у вершы «Роздум уначы»:

**Цяпер у спратах свету**
**не траціл,—**
**Ракеты, што начынены**
**уранам,**
**Нейтронамі смяротна-хіжых**
**сіл.**
**Каму такая спадчына**
**сабрана?**
**...У зорах ноч!**
**Асмяглая зямля.**
**Ніводнага жывога**
**адгалосся.**
**І цішыня...**

